

# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова». — *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 430 Сьнежань 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00


## «Я НЕ ХАЧУ З ВАМІ ВАЯВАЦЬ»

**Сустрэча прэзыдэнта Лукашэнкі з творчай інтэлігенцыяй**

Прэзыдэнт Лукашэнка нарэшце ўсьвядаміў сабе, што ягоная вайна зь інтэлігенцыяй да нічога добрага не давядзе. А таму 24 лістапада адбылася ў Менску сустрэча кіраўніка беларускай дзяржавы з прадстаўнікамі 11-х творчых саюзаў Беларусі. «Я не хачу з вамі ваяваць, — сказаў сваім слухачам Лукашэнка, — таму што вы эліта і залаты фонд грамадзтва. Каб зьмяніць нашыя ўзаемаадносіны, трэба хаця-б наладзіць нейкія кантакты».

Прэсавы камунікат Беларускага пасольства ў Вашынгтоне, зь якога ўзятая гэтая цытата, дадае: «Ва ўступным слове Прэзыдэнт таксама выказаў гатоўнасьць да шчырага абмену думкамі, каб усім разам прыйсьці да агульнай канцэпцыі разьвіцьця нацыянальнай культуры».

З далейшых слоў Лукашэнкі не выглядае, каб ён быў гатовы карэнна зьмяніць свой пагляд на нацыянальную культуру. Дбаньне аб культуры для яго — гэта галоўным чынам фінансаваньне дзяржавай культурных мерапрыемстваў. Чым ня клопаты аб культуры? — аргумэнтус Лукашэнка: «У самых шырокіх маштабах падтрымліваюцца беларускамоўныя выданьні, у тым ліку 45 газэт і часопісаў. У 1995 годзе на беларускай мове выдадзена 310 найменаваньняў кніг агульным накладам 8 мільёнаў 130 паасобнікаў».

Дакладна гэткімі-ж «колькаснымі» аргумэнтамі карысталася савецкая прапаганда за часамі Брэжнева. Тады таксама на довад аб росквіце беларускай культуры цытаваліся лікі: гэтулькі а гэтулькі ў нас кінатэатраў, клюбаў, беларускамоўных выданьняў і да таго падобнага. Але ёсьць колькасьць і ёсьць якасьць. Якая карысьць справе прагрэсу ад беларускамоўных падкантрольных адміністрацыі выданьняў, калі яны настаўленыя не на абслугоўваньне і стымуляваньне нацыянальнай культуры, а на задавальняньне каньюнктурных патрэбаў ураду? Калі іхны зьмест небеларускі або антыбеларускі?

Так, Прэзыдэнт мае рацыю — беларуская культура «дэфармаваная», але ня гэтулькі эканомікай, колькі ягоным русафільскім акружэньнем і ім самым, ягонай пагардай да нацыянальнае мовы, мінуўшчыны, гістарычнай спадчыны.

Каб «наладзіць хаця-б нейкія кантакты» зь інтэлігенцыяй, перастаць «ваяваць» з «элітай і залатым фондам грамадзтва» ды «ўсім разам прыйсьці да агульнай канцэпцыі разьвіцьця нацыянальнай культуры», трэба, каб сэрцавінай гэткай канцэпцыі сталася беларуская дэмакратычная дзяржаўнасьць, правы чалавека, свабодная эканоміка, пашана свае культурнае спадчыны, у тым ліку мовы свайго народу. На гэткай аснове пабудаваныя сёньня ўсе перадавыя дзяржавы сьвету. Але ці здольны спадар Лукашэнка кіравацца такімі прынцыпамі ў сваёй далейшай палітыцы? Ці зразумее перавагі дэмакратыі і свабоды слова? Паказальнікаў такога разуменьня пакульшто ня было відаць.

*P.S.*

Як падала газэта творчай інтэлігенцыі Беларусі «Літаратура і Мастацтва» (1.XII), на згаданую сустрэчу ня былі запрошаныя выдатныя пісьменьнікі, якія крытычна выказваліся пра Лукашэнкаву палітыку: Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч. «Ня былі запрошаныя на сустрэчу, — піша «ЛіМ», — і галоўныя рэдактары асноўных літаратурна-мастацкіх, тэатральных, гістарычных часопісаў».

Адмаўляючыся на словах «ваяваць зь інтэлігенцыяй», прэзыдэнт Лукашэнка ўсё-ж далей вядзе зь ёй вайну, вайну зь беларускай нацыянальнай культурай.

**Янка Запруднік**

---

**Алег Спавіт**

## УЛАСНЫ КРЫЖ

*Вы намажце на чорствы хлеб*
*Рэфэрэндум ды сьцяг чырвоны,*
*Каласісты лопайце герб:*
*Да спадобы вам смак картонны.*
*Вы павесьце правадыра партрэт*
*Замест абразоў у хатах,*
*Хай сьмяецца з вас увесь сьвет,*
*Калі розуму небагата.*
*Кіньце сваіх сыноў*
*У чачэнскі кацёл варыцца,*
*Будуць яны ізноў*
*У далёкай ляжаць зямліцы.*
*Задушыце сваімі хлусьнямі*
*Стагодзьдзямі набытое,*
*Перакрэсьліце дурняў рукамі*
*Нашчадкаў жыцьцё маладое.*
*Вы самі вызначылі для сябе*
*Рэпрэсіі, зьдзекі, глупоту.*
*Толькі памятайце —*
*Кожны з вас панясе*
*Уласны крыж на Галгофу.*

Беларусь
20 траўня 1995

---

***ШЧЫРА ВІНШУЕМ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ, ПАДПІШЧЫКАЎ І АХВЯРАДАЎЦАЎ З КАЛЯДНА-НАВАГОДНІМІ СЬВЯТАМІ, ЖАДАЕМ ДОБРАГА ЗДАРОЎЯ І ЎСЯКАЕ ПАМЫСНАСЬЦІ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ!***

***Рэдакцыя «Беларуса»***

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу**

**ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!**

*«Але калі споўніўся час, Бог паслаў Сына Свайго, Які нарадзіўся ад жанчыны, і хадзіў пад законам, каб адкупіць падзаконных, каб нам атрымаць усынаўленьне» (Гал.4:4-5)*

Дагагія Браты й Сёстры!

Хрыстовае нараджэньне ня было выпадковым. Гэта выкананьне абяцаньня Божага. Хрыстос прыйшоў па доўгім часе прароцтва пра Ягона прыход. Сьв. ап. Пётра кажа рымскаму сотніку: «Пра Яго ўсе прарокі сьветчаць» (Дзеі 10:43). А калі мудрацы з Усходу запыталіся ў Ірада, дзе кароль Гэбрэйскі нарадзіўся, Ірад раіўся са сваімі старшынамі, якія сказалі яму: «У Бэтлееме Юдэйскім» (Мц. 2:5). Бо так пісалі прарокі. Калі прыйшла поўня часу, «Бог паслаў Сына Свайго». Не прарока, не патрыярха, не сьвятара, не анёла зь нябёсаў, ані караля. Але Свайго ўласнага Сына. «Бог, Які шмат разоў і ўсялякімі спосабамі прамаўляў здаўна да бацькоў нашых праз прарокаў, гэтымі апошнімі днямі прамовіў праз Сына Свайго, Якога ўстанавіў спадкаемцам усяго, праз Якога вякі стварыў» (Гэб. 1:1-2). Пэўна-ж, што ў гэтым прыгатаваньні праз прарокаў Бог меў мэту, пра якую сьв. ап. Павал кажа: «Каб адкупіць тых, што пад законам». Выкупіць грэшнікаў ад засуджэньня на сьмерць. «Але ўсім тым, што прынялі Яго, даў ім права стацца дзяцьмі Божымі», гэтак тлумачыць ап. Ян (Ян :12). Выкупленьне дарагацэннай крывёй Ісуса Хрыста, чыніць іх «удзельнікамі Боскае прыроды», пацьвярджае апостал Пётра (2 Пёт. 1:4). А Сам Госпад кажа гэтак: «Бо Сын Чалавечы прыйшоў шукаць і выратаваць загінулых» (Лк. 9:10). Госпад прыйшоў, каб выратаваць. Ён зрабіў усё тое, каб мы маглі атрымаць назад тое месца ў сям'і Бога, якое мы страцілі праз свой грэх. Сьв. ап. Ян зьвяртае нашу ўвагу й кажа: «Глядзеце, якую любоў даў нам Айцец, каб нам называцца й быць дзяцьмі Божымі» (1 Ян 3:1). А Госпад кажа: «Я ўжо не назваў вас нявольнікамі, бо нявольнік ня ведае, што робіць гаспадар ягоны, але Я вас назваў прыяцелямі, бо сказаў вам усё, што пачуў ад Айца Свайго» (Ян 15:15).

Дарагія мае Браты й Сёстры, нашу краіну, наш народ наведалі два вялікія няшчасьці. Адно — гэта выбух у 1986 годзе Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, які затруціў нашых людзей і блізу ўсю тэрыторыю Беларусі. Гэта няшчасьце фізычнае: пагроза здароўю, калецтва, хваробы.

Але ёсьць і другое ня менш страшнае зьнішчэньне — гэта зьнішчэньне нашае мовы, гісторыі й культуры. Інакш кажучы, зьнішчэньне нацыянальнае сьвядомасьці.

А цяпер наведала палітычная, яшчэ больш ядавітая пошасьць нашу радзіму-Беларусь.

Сяргей Палуян на самым пачатку гэтага сталецьця, пісаў: «Не давалі табе расьці й разьвівацца. Воцатам чужой культуры зьвільжалі твае сьпячоныя смагай сьвету вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікамі. А цяпер пышаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны так, іхныя. Іх няма з табой. З самага малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю процi Цябе».

Словы Сяргея Палуяна, пасьля амаль ста гадоў яшчэ ўсё дзейсныя. Чу-

*(Працяг на 2-й ст.)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ЗВАРОТ

## Управы Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» да беларускіх суполак ў замежжы

Шаноўныя Суродзічы!

11-12 лістапада 1995 году ў Менску адбылася Сустрэча кіраўнікоў беларускіх суполак у замежжы і сяброў Вялікай Рады, арганізаваная Згуртаваньнем беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» з нагоды 5-й гадавіны ўтварэньня арганізацыі.

Удзельнікі сустрэчы аднадушна выказалі занепакоенасьць грамадзка-палітычным становішчам у Беларусі: правакацыйным стаўленьнем пэўных сілаў да ідэі беларускай дзяржаўнасьці, захадамі супроць сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь. Прамоўцы канстатавалі, што адказ ад нацыянальнай сымболікі, паніжэньне дзяржаўнага статусу беларускай мовы, наступ на нацыянальныя формы адукацыі, на дэмакратычную прэсу, незалежныя прафсаюзы нэгатыўна адбіліся на міжнародным прэстыжы нашай краіны і на ўнутраным становішчы ў самой Беларусі.

Нягледзячы на цяжкую сытуацыю, па меркаваньню ўдзельнікаў сустрэчы, беларуская сусьветная грамада павінна і надалей прадаўжаць сваю дзейнасьць у накірунку аб'яднаньня ўсіх нашых сілаў на падтрымку працэсу нацыянальнага адраджэньня беларускага народу, на змаганьне за ўтрыманьне незалежнасьці Беларусі і будаўніцтва самастойнай дзяржавы.

Дасягнуць усяго гэтага можна будзе толькі тады, калі мы ўсе разам і кожны з нас будзем памятаць аб сваёй адказнасьці за справу, якую вядзем на нашай агульнай беларускай дзялянцы.

Мы зьвяртаемся да сяброў Вялікай Рады «Бацькаўшчыны», абраных на Зьезьдзе беларусаў сьвету, да кіраўнікоў беларускіх замежных арганізацый, якія ўзялі на сябе цяжкую ношу грамадзкай працы, да ўсіх беларусаў замежжа з просьбаю больш актыўна ўключацца ў сусьветны беларускі рух, адкінуць спрэчкі і непаразуменьні паміж намі, цясьней лучыць сувязь паміж сабою і Бацькаўшчынаю — Беларусьсю. У грамадзе — наша сіла і наша надзея.

Спадзяемся таксама на разуменьне і падтрымку далейшай дзейнасьці Згуртаваньня. Управа «Бацькаўшчыны» адчувае зараз вялікія цяжкасьці ў вядзеньні сваёй адказнай працы. Добра было-б, каб нашы клопаты не засталіся па-за ўвагаю замежных беларусаў. Толькі агульнымі намаганьнямі мы здолеем утрымаць наша Згуртаваньне і пашырыць яго дзейнасьць на больш шырокія абсягі, дзе яшчэ ня здолелі арганізавацца нашы браты і сёстры-беларусы, і ўзьняць на вышэйшы ўзровень справу захаваньня беларускай прысутнасьці ў сьвеце.

У гэтай сувязі мы просім беларускія арганізацыі ў замежжы разглядзець падтрыманую ўдзельнікамі сустрэчы прапанову Управы «Бацькаўшчыны» аб сяброўскіх складках на ўтрыманьне сядзібы і неабходнага штату. Мы лічым, што складкі могуць быць толькі дабраахвотнымі і ў тым памеры, які ёсьць магчымы.

У сваю чаргу мы таксама хацелі-б запэўніць, што будзем і надалей несьці адказнасьць за далейшы лёс «Бацькаўшчыны», за тое, каб яна ўмацоўвалася і давала надзею замежным беларусам на падтрыманьне сувязяў з бацькоўскай зямлёю.

Наша сьвяточная, але ў большай меры дзелавая сустрэча, адбылася ў год, калі споўнілася 50 гадоў з таго часу, як Беларусь пакінула вялікая і найбольш сьвядомая хваля эміграцыі Другой сусьветнай вайны. Менавіта яна сталася потым захавальніцай ідэі незалежнасьці і нацыянальнага адраджэньня. Сёлета мы таксама адзначаем 75-я ўгодкі надзвычайнай падзеі ў гісторыі барацьбы за самастойную Беларусь — **Слуцкага збройнага чыну**. Нашы папярэднікі заклалі падмурак Беларускага Дому, будаваньне яго павінна працягвацца. **Будзем-жа вернымі, трывалымі і рупнымі ў сваёй працы. Не адступім перад цяжкасьцямі! Верма ў добрую будучыню і вера наша стане сьветлаю яваю! За працу, браты! Няхай дапамагае нам Бог!**

**Жыве Беларусь!**

Менск
15 лістапада 1995 г.

## СПРАШЧЭНЬНЕ ТЭЛЕФОННАЙ СУВЯЗІ ЗЬ БЕЛАРУСІ Ў ЗША

У прэсавым камунікаце амэрыканскай тэлефоннай кампаніі AT&T паведамляецца: «AT&T нагадвае, што падарожнікі са Злучаных Штатаў у Беларусі і 14 іншых краінах па цэлай Усходняй Эўропе могуць званіць дамоў хутка й лёгка, карыстаючыся беспасярэднімі паслугамі AT&T. Тэлефанаваць зь Беларусі можна, набіраючы спачатку 8, і калі пачуеш гудок, набраць 800-101. Нумар можна набіраць самому або папрасіць спалучэньня з англамоўным апэратарам у ЗША. Аплата за размову можа быць залічаная на AT&T Calling Card, AT&T Universal Card, на рахунак сваёй мясцовай тэлефоннай кампаніі або быць залічанай на нумар, куды званіш (collect call).

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*(Заканчэньне зь 1-й ст.)*

жым ядам атручаныя сыны Беларусі сталіся здраднікамі свае краіны, еннае незалежнасьці. Зьневажаюць сваю родную мову. Топчуць свае гістарычныя сымбалі.

Зьявілася новая ўлада, якая нішчыць тое, што ёсьць гістарычна беларускае, нішчыць нацыянальную гістарычную спадчыну. Нішчыць беларускую культуру, каб беларускі народ зноў не прачнуўся.

Але няхай ніхто ня думае, што мы слабыя. Сьв. ап. Павал кажа: «Бо сіла мая дасканаліцца ў кволасьці» (2 Кар. 12:9). Наш народ перажыве сучасную пошасьць і нашая сьвятая мова зойме сваё месца ў сьвятыні, зацьвіце нашая культура, зазьзяе нашая гісторыя сваім сапраўдным сьвятлом, а народ наш Беларускі будзе жыць свабодна ў сваім краі, Сьвятой Беларусі.

Мова, культура ды само жыцьцё нашага народу, дарагія мае, — гэта дар Божы. Таму паводле Божага закону мы маем поўнае маральнае права вярнуць сваю мову, гісторыю, культуру і незалежнасьць. Бог дапусьціў Шатана да справядлівага Ёва, каб Шатан пераканаўся, што Ёў сапраўды пабожны. Ці не выпрабоўвае Бог і нас вялікімі цяжкасьцямі, для збаўленнай місійнай працы?

Мы не павінны падаць духам, бо Бацькаўшчына наша «не памерла, яна сьпіць».

Няхай-жа дзень Нараджэньня Хрыстовага будзе радасным сьвятам усім Вам і Божае дабраславеньне з усімі Вамі.

Хрыстос Радзіўся — Яго Слаўце!!!

Каляды 1995 г.
Таронта, Канада

**Архіяпіскап Мікалай**
**Першы Ярарх БАПЦ**

## УГОДКІ «БЕЛАРУСА»

Шчыры прыхільнік «Беларуса» паэт Сяргей Панізьнік прыслаў рэдакцыі газэты наступныя радкі віншаваньня напярэдадні 45-х угодкаў выхаду газэты:

***«Беларусу» на 45-годзьдзе***

*Штагод меў намалот*
*Бяз друза*
*напоўнены*
*збажыной*
*засек.*
*От – 45.*
*Для «Беларуса»*
*дзябёлы*
*кавалерскі*
*век.*

Менск, верасень 1995 г.
**Сяргей Панізьнік**

## РАДЫЁСТАНЦЫЯ «БЕЛАРУСЬ»

Радыёстанцыя «Беларусь» вяшчае на Паўночную Амэрыку ад 19:30 да 20:00 паводля ньюёркскага часу на частотах 5940, 13640 і 17665 кілягерцаў. Тыя слухачы, што хацелі-б падзяліцца сваімі ўражаньнямі ад пачутага, могуць пісаць на адрас галоўнага рэдактара Міхася Тондзеля: Менск 220807, вул. Чырвоная, 4, Беларусь.

**Георгій Гацкевіч**

### *МАЛІТВА ГРЭШНІКА*

*Ты даруй мне, Божа, Герастрата*
*славу,*
*Бо падняў я руку на Тваё тварэньне.*
*У сузор'і моваў больш ня будзе*
*нашай,*
*Той крыніцы сьветлай веры і*
*натхненьня.*
*Ты даруй мне, Божа, непамерны*
*гонар,*
*Што мяне штурхае над людзьмі*
*узьняцца,*
*Разьядае сэрца, як іржа жалеза,*
*Прымушае розум праўды адцурацца.*
*Ты даруй мне, Божа, непавагу сына*
*Да славутых продкаў, да крыіны-*
*маці,*
*Мо таму застаўся ў поўнай адзіноце*
*І начамі чую стогны ды праклятцы.*
*Ты даруй мне, Божа, і за грэх*
*падману,*
*Чым купіў я ўдала галасы і душы,*
*І таму у храме, стаўшы на калені,*
*Галаву схіліці я сябе прымушу.*

## ЛУКАШЭНКА: «АБ'ЯДНАНЬНЯ БЕЛАРУСІ З РАСЕЯЙ НЯ БУДЗЕ» (?!)

Паводле прэсавага камунікату Беларускага пасольства ў Вашынгтоне ад 27 лістапада, прэзыдэнт Лукашэнка сказаў нямецкай газэце «Гандэльсблят» 21 лістапада сёлета, што «пакуль ён будзе прэзыдэнтам свае краіны, аб'яднаньня беларускай і расейскай дзяржаваў ня будзе. Праўдападобнасьць такога аб'яднаньня, падкрэсьліў Прэзыдэнт, выдаецца яму такой-жа, як і аб'яднаньне Беларусі з Фэдэральнай Рэспублікай Нямеччыны, — чытаем у прэсрэлізе. «Гэткі крок ня ёсьць патрэбным або карысным ні для Беларусі, ні для Расеі, зазначыў Прэзыдэнт, хоць дачыненьні паміж дзьвюма краінамі 'больш глыбокія і цёплыя', як дачыненьні зь іншымі краінамі».

Тым часам прыйшла вестка, якая паказвае, што Лукашэнкавым заявам пра непэрспэктыўнасьць беларуска-расейскага аб'яднаньня грош цана. Агенцтва Ройтэра паведаміла 6 сьнежня зь Менску (карэспандэнцыя Юрыя Сьвірка), што беларускі прэзыдэнт «зьвярнуўся да 15 з 43 расейскіх палітычных партыяў, якія спаборнічаюць у парляманцкіх выбарах (17 сьнежня сёлета), каб яны паспрыялі аб'яднаньню Расеі і Беларусі. Лукашэнка пры гэтым абвінавяціў сваіх апанэнтаў, што яны намагаюцца зьняславіць яго». Мэта гэткага зьнеслаўленьня, паводле беларускага прэзыдэнта, — «спыніць за ўсякую цану працэс аб'яднаньня ды пасеяць хаос і нянэўнасьць сярод выбаршчыкаў Беларусі і Расеі».

## ДЭЛЕГАЦЫЯ АД БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ГРАМАДЗТВА Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ ДЭПАРТАМАНЦЕ

З чарговым візытам у Дзяржаўны Дэпартамант ЗША наведалася 11 сьнежня сёлста шасьціасобавая дэлегацыя ад беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў. У складзе дэлегацыі былі (у альфабэтным парадку): Язэп Арцюх, рэдактар квартальніка Belarusian Review; Расьціслаў Завістовіч, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі; Янка Запруднік, сябра галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня; Алеся Кіпель ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва; Натальля Русак ад Беларуска-Амэрыканскага Культурна-Асьветнага Таварыства, і Алекс Сільвановіч, старшыня Камітэту Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

Адбылося спатканьне са сп. Джэймсам Колінсам, спэцыяльным паслом ЗША па справах нова-незалежных дзяржаваў (рэспублікі былога СССР), і ягонымі памочнікамі. Дэлегацыя перадала Дзяржаўнаму Дэпартаманту мэмарандум з прапановамі і просьбамі: пашырыць амэрыканска-беларускія сувязі на ўрадавым і няўрадавым узроўнях, упаасобку абмен спэцыялістамі і студэнтамі; пабольшыць дапамогу ахвярам Чарнобыля; крэдыты Беларусі на рэформы выдаваць пад строгім кантролем; сыстэматычна інфармаваць беларуска-амэрыканскае грамадзтва аб розных праграмах дапамогі, якія маюць на мэце і Беларусь; дзе магчыма, выкарыстоўваць беларускую мову ў афіцыйных сувязях зь беларускім бокам.

У паўтарагадзінных гутарках адбыўся абмен інфармацыяй і паглядамі. Пасол Колінс расказаў пра свой нядаўны візыт у Менск і сустрэчы там з прэзыдэнтам Лукашэнкам ды іншымі ўрадавымі асобамі. Ён сказаў наведнікам, што на Беларусі праходзіць працэс дзяржаўнага будаўніцтва і запэўніў дэлегацыю, што амэрыканска-беларускія дачыненьні разьлічаныя на доўгі час і праводзяцца з мэтай падтрыманьня незалежнасьці Беларусі і прысьпешаньня дэмакратычных рэформаў.

## НОВЫ ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БЕЛАРУСІ

Незважаючы на няспрыяльныя ўмовы і сабатаж збоку адміністрацыі прэзыдэнта Лукашэнкі, парлямянцкія выбары завяршыліся нарэшце сфармаваньнем новага Вярхоўнага Савету Беларусі. 10-га сьнежня абраньнем дадатковых 59 дэпутатаў агульны лік сяброў новага ВС дасягнуў 198, на 24 больш, як патрэбны кворум 174. Калі будзе даабраная рэшта дэпутатаў 260-асабовага беларускага парляманту, тым часам няведама.

Сярод 198 абраных заканадаўцаў найбольшая група незалежных дэпутатаў — 96 (48,8 працэнта), за імі ідуць сябры Партыі Камуністаў Беларусі — 42 (21,2 прац.), Аграрнай Партыі — 34 (17,2), Аб'еднанай Грамадзянскай Партыі — 7, Партыі Народнай Згоды — 8, Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады — 2, Партыі Ўсебеларускага Адзінства і Згоды — 2. Ад Беларускага Народнага Фронту не прайшоў ніводзін кандыдат.

Зь ліку крытыкаў Лукашэнкавае палітыкі ў новы парлямант увайшлі: Станіслаў Шушкевіч, Станіслаў Багданкевіч, Аляксандар Дабравольскі, Пётр Краўчанка, Генадзь Карпенка ды раней абраны Мечыслаў Грыб.

У выбарах 10 сьнежня, якія прайшлі ў вельмі няспрыяльных для выбаршчыкаў і кандыдатаў умовах, пры поўным замоўчваньні перадвыбарчае кампаніі сродкамі масавае інфармацыі, падкантрольнымі Лукашэнку, узяло ўдзел 52,4 працэнта выбаршчыкаў. Газэта «Вашынгтон Пост» (11.XII) паведамленьне зь Менску пра вынікі выбараў зьмясьціла пад заг. «Вялікі ўдзел у беларускіх выбарах — параза аўтарытарнаму прэзыдэнту».

## БЕЛАРУСКАЯ «ТРАГІКАМЭДЫЯ»

У заходніх сродках масавай інфармацыі пра Беларусь паведамляецца апошнім часам больш, чым раней у сувязі з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі. Але не на дабро краіны. Беларусь апынулася ў крывым люстэрку паведамленьняў пра ейнага лідэра зь ягонымі дыктатарскімі замашкамі і нацыянальным нігілізмам. Вось свайго роду «партрэт» рэспублікі праз прэзыдэнцкую прызму, узяты з уплывовага брытанскага часапісу The Economist (2.XII.95). Ілюстраваны Лукашэнкавай фатаграфіяй, даўжэйшы рэпартаж зь Менску пачынаецца гэтак:

«Іншадумцы ў беларускай сталіцы кажуць наведнікам не гаварыць таго, што думаюць: КДБ, шэпчуць яны, яшчэ ўсё падслухоўвае. Самвыдавецкія публікацыі перадаюцца з рук у рукі. Тры апазыцыйныя газэты друкуюцца ў суседняй Летуве і прадаюцца спадцішка ў паасобных кіёсках. Папулярная рок-група, што завецца 'Новае неба', выпусьціла падпольна відэа зь песьняй-гітам пад заг. 'Спадар Прэзыдэнт, вяртайся дамоў' (Mr. President, Go Home), якая канчаецца дарожным знакам, што паказвае на Маску.

«У Беларусі, — піша часапіс, — разыгрываецца трагікамэдыя. Галоўны актор у ёй — Аляксандар Лукашэнка, спадар Прэзыдэнт зь песенькі 'Новае

## ЛУКАШЭНКА: «МЫ ЎЖО МАЕМ ПАРЛЯМАНТ»

Выступаючы на тэлебачаньні на пачатку сьнежня, пасьля першага туру паўторных парляманцкіх выбараў, прэзыдэнт Лукашэнка сказаў: «Мы ўжо маем парлямант. Незалежна ад таго, што здарыцца ў другім туры (10 сьнежня), парлямант пачне сваю працу за тры тыдні». (Паводле *Ройтэра* зь Менску, 2.XII.95)

## ЗАДАНЬНЕ ПЕРАД БЕЛАРУСАМІ ЗАМЕЖЖА

**З дакладу Ганны Сурмач, старшыні ЗБС «Бацькаўшчына» на сустрэчы кіраўнікоў беларускіх суполак у Менску 11 лістапада 1995 г.**

Найважнейшаю задачаю беларускіх суполак у замежжы павінна стаць утварэньне матэрыяльнае і фінансавае базы, так як гэта робяць іншыя народы. Толькі пры такой умове могуць быць пасьпяховымі ўсе астатнія накірункі дзейнасьці арганізацыі.

Прынцыпова важна дабівацца распрацоўкі і прыняцьця заканадаўчых актаў на Беларусі па абароне правоў замежных суродзічаў. Найперш, афіцыйна павінен быць вызначаны статус замежнага беларуса: каго можна аднесьці да гэтай катэгорыі. Той, хто атрымае такі статус, павінен мець і пэўныя, большыя, чым у іншых грамадзянаў замежных дзяржаваў, правы набыцьця маёмасьці на Беларусі, спрыяньне ў вядзеньні бізнэсу, спрошчаную працэдуру набыцьця грамадзянства і вяртаньня на радзіму. Пэўную карэктыроўку трэба было-б унесьці і ў іншыя законы, скажам, у закон аб бежанцах, дзе нейкім чынам закранаюцца інтарэсы замежных беларусаў.

Неабходна зьвярнуцца ў дзяржаўныя органы з прапановаю аб стварэньні спэцыяльнай дзяржаўнай структуры па сувязях з дыяспарай.

Вядома, што пры ўрадзе краіны створаны савет па справах нацыянальных меншасьцяў і беларусаў блізкага замежжа. Але мы, на вялікі жаль, нічога ня ведаем пра яго дзейнасьць. Пра гэта не паведамляецца ў друку, а на паседжаньні прадстаўнікоў «Бацькаўшчыны» не запрашалі ні разу і нават ніякіх кантактаў з гэтым органам мы ня маем, што, бязумоўна, выглядае дзіўна.

На сходзе беларусаў блізкага замежжа і Зьезьдзе беларусаў сьвету былі прынятыя звароты да парлямэнту і ўраду Беларусі, дзе былі выкладзеныя просьбы і прапановы аб патрэбах замежных беларусаў. На жаль, большасьць іх так і не задаволена. Урадам была распрацавана і прынята спэцыяльная праграма «Беларусы ў сьвеце», але і яна ў поўнай меры ня выконваецца. Але аб тым, што зроблена з боку дзяржавы спадзяюся больш падрабязна скажуць прадстаўнікі дзяржаўных структур. «Бацькаўшчыне»-ж даводзілася найбольш супрацоўнічаць зь Міністэрствам культуры і друку і Міністэрствам адукацыі, якія больш актыўна ўдзельнічалі ў справе дапамогі дыяспары.

Праз два гады, у 1997 г., павінен сабрацца наступны, Другі зьезд беларусаў сьвету. Другую палову свайго, вызначанага Статутам, 4-гадовага тэрміну кіруючыя органы ЗБС павінны скіраваць на тое, каб у штодзённай настойлівай працы дабівацца вырашэньня ўсіх тых вялікіх і малых пытаньняў, пра якія гаварылася ў гэтай справаздачы і якія яшчэ паставіць само жыцьцё. Трэба вельмі адказна паставіцца да падрыхтоўкі правядзеньня ў наступным 1996 г. навукова-практычнай канфэрэнцыі «Культура беларускага замежжа». Патрэбна ў бліжэйшы час выдаць і матэрыялы Першага зьезду беларусаў сьвету і Сходу беларусаў блізкага замежжа.

Мы разумеем, што працаваць на абраным намі шляху будзе няпроста, а магчыма, усё цяжэй і цяжэй. Палітычныя і эканамічныя праблемы, што перажывае цяпер Беларусь, закранаюць вельмі балюча і нас, абмяжоўваюць магчымасьці, ствараюць перашкоды. Але ўсе тыя, хто арганізаваў згуртаваньне і пяць гадоў падтрымліваў яго дзейнасьць, будуць і недалей укладаць сваю працу, сілы, здароўе, каб «Бацькаўшчына» жыла і ўмацоўвалася. Ужо сама назва арганізацыі абавязвае нас да высокай адказнасьці за яе далейшы лёс.

І на заканчэньне — пра самае асноўнае. Надзвычай важна для ўсіх нас захаваць адзінства, пераадолець непаразуменьні, пустыя спрэчкі, а часам і варожасьць паміж арганізацыямі і асобнымі дзеячамі як на Беларусі, так і ў замежжы. Сёньня гэтага раздору яшчэ сярод нас хапае. Усе мы розныя і кожны мае поўнае права ўваходзіць у тую ці іншую суполку па сваім гусьце і перакананьнях. Але ўсіх нас павінна аб'ядноўваць агульная нацыянальная справа – справа захаваньня беларускай нацыі, незалежна ад таго, дзе жывуць яе прадстаўнікі. Галоўным нашым клопатам павінна быць Беларусь, захаваньне яе як самастойнай дзяржавы і захаваньня яе народу такім, якім стварыў яго Ўсемагутны Бог. На жаль, пакуль што такога разуменьня і такой адказнасьці нам яшчэ не хапае. Да сапраўднага адзінства давядзецца, магчыма, яшчэ ісьці доўга і пакутліва. Але мусім ісьці, каб жыць.

**Жыве Беларусь!**

## ПАМЯЦЬ ПРА СЛУЧЧАКОЎ

«Год таму ў Капыльскім раёне, у вёсках Грозава і Семежава, былі ўсталяваны крыжы ў памяць аб нашых продках, загінуўшых падчас Слуцкага збройнага чыну. Яны асьвечаны сьвятарамі, да іх ускладзены вянкі і буксты.

2 сьнежня такі самы крыж будзе ўстаноўлены яшчэ ў адным гістарычным месцы, паблізу якога адбыўся самы рашучы бой, — у былой Вызьне, сённяшняй Чырвонай Слабадзе, што на ўскрайку Салігорскага раёну». — *«Зьвязда», 2.XII.95*

## БЕЛАРУСКАЕ ЗЯМЛЯЦТВА НА КАМЧАТЦЫ

Увесну 1995 году ў горадзе Петрапаўлаўск-Камчацкі арганізавалася беларускае зямляцтва, да якога належаць 50 асобаў. Арганізацыя яшчэ маладая, ня мае канкрэтнага пляну працы, але галоўная мэта ясная — аб'яднаць усіх беларусаў, што жывуць у горадзе і навакольных мясьцінах. Ініцыятары зямляцтва ўсьведамляюць сабе, што арганізацыя іхная невялікая, але яны ўпэўненыя, што нават такая малая арганізацыя спрыяе умацаваньню беларускага нацыянальнага духу і дапамагае справе адраджэньня Беларусі.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і газэта «Беларус» шчыра вітаюць сваіх камчацкіх суродзічаў і жадаюць ім усякай памыснасьці ў грамадзкай працы. Пісаць да іх можна на адрас: Кожан Николай Иванович, Петропавловск-Камчатский, пр. Победы, дом 43, кв. 22, Россия — 683023.

## ЧАМУ ПРЭЗЫДЭНТ ЛУКАШЭНКА ТАК СЬПЯШАЕЦЦА ЗАМЯНІЦЬ НА ДЗЯРЖАЎНЫХ БУДЫНКАХ СЫМБОЛІКУ, НЕ ДАЧАКАЎШЫСЯ ЎНЯСЕНЬНЯ ЗЬМЕНАЎ У КАНСТЫТУЦЫЮ, ЦІ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЯ ПАРЛЯМЭНТАМ ВЫНІКАЎ ВОЛЕВЫЯЎЛЕНЬНЯ НАРОДУ?

Адказ адзін: прэзыдэнт баіцца, што новы парлямант, нават камуністычны, прызнае рэфэрэндум незаконным. Бо не па ўсіх пытаньнях рэфэрэндуму за яго правядзеньне галасавала палавіна дэпутатаў Вярхоўнага Савету.

Вядомы беларускі прадпрымальнік, кіраўнік выдавецкай фірмы «Эрыдан» сказаў аб гэтым наступнае: «Гісторыя з дэманстрацыйнай заменай сьцягу і гэрбу задоўга да тэрміну законнага ўступленьня ў сілу рашэньня рэфэрэндуму сымбалічна паказала нам, што ў краіне ўведзенае надзвычайнае становішча дэ-факта. Гэта значыць, што пытаньне аб выкананьні ці парушэньні любых законаў аддадзена на водкуп вузкаму колу асоб». («Народная газета», 2.VI.95)

Вядомы беларускі драматург і пісьменьнік Аляксей Дудараў сьведчыць аб тым, што старыя і малаадукаваныя людзі ўвогуле ня ведалі, што такое рэфэрэндум і за што яны галасуюць. Ён пісаў: «Асабіста я ведаю некалькі выпадкаў, калі на адным і тым самым выбарчым участку 90% выбаршчыкаў галасавалі за зьмену сімволікі, і тыя самыя выбаршчыкі садзейнічалі выхаду ў другі тур галасаваньня ў дэпутаты парламанту прадстаўніка БНФ. Калі славянская душа — пацёмкі, то беларуская — поўная цемра». («Свободные новости плюс», № 21, падпісаны да друку 26.V.95)

Былы старшыня Вярхоўнага Савету БССР, а пасьля пасол РБ у Польшчы Георгі Таразевіч сказаў: «Такой пропагандай, што звалілася на дзяржаву ў апошні час, можна навязаць людзям усё, што заўгодна. ... Практычна бессэнсоўны рэфэрэндум, вызначыў дзяленьне людзей на 'сваіх' і 'чужых', амаль поўнасьцю адарваў інтэлігенцыю, разважлівых грамадзян ад палітычнай улады». («Свободные новости плюс», № 21)

І народ пратэстуе. Газэта «Свабода» надрукавала лісты навучэнцаў сярэдніх школаў, якія яшчэ ня мелі права галасаваць, з пратэстам, чаму пажылыя людзі, якім жыць усяго некалькі гадоў, вырашылі за моладзь, у якой краіне ім жыць, пад якімі сымбалямі і з кім сябраваць, з кім варагаваць.

А студэнты Дзяржаўнага ўнівэрсытэту прышлі да будынку адміністрацыі прэзыдэнта і пачалі хадзіць наўкола, залажыўшы рукі за галовы, быццам зьняволеныя (вязьні), і тым, хто пытаўся, у чым справа, паясьнялі, што такі лёс чакае краіну: зноў лягеры і Курапаты. Пасьля яны ўзялі сьцяг былой БССР і пайшлі да тэатру імя Янкі Купалы, дзе сьцяг павесілі ля ўваходу ў туалет (пісуар) і адсьпявалі гімн БССР, пасьля чаго сьцяг БССР сарвалі, разарвалі на часткі, і тую частку, дзе быў на сьцягу серп і молат, публічна спалілі. Пасьля гэтага ў дзсяньне былі пушчаны асобыя аддзелы міліцыі (АМАП), якія дэманстрацыю разагналі і частку дэманстрантаў арыштавалі разам зь людзьмі з натоўпу гледачоў. А лукашэнкаўскі Гебэльс, таварыш Замяталін, сказаў з гэтае нагоды, што гэта блюзнерства спальваць гістарычны сьцяг дзяржавы. Так што сьцяг, прыдуманы ў 1952 годзе ў Маскве для беларусаў, стаў ужо з падачы масквіча Замяталіна «гістарычным». Цікава, што грамадзяне Беларусі патрабуюць ад пракуратуры ўзбуджэньня крымінальнай справы па факту зьняцьця зь дзяржаўных будынкаў бел-чырвона-белага сьцягу і зьдзеку над ім. Дык у гэтым выпадку юрысты вывучаюць заканадаўства Рэспублікі наконт зьнявагі сьцягу. А вось для арышту студэнтаў вывучаць заканадаўства не патрабавалася. Таварыш Ціцянкоў, заўхоз прэзыдэнта «обиделся» на рэпартэра, які апісаў, як Ціцянкоў зрываў бел-чырвона-белы сьцяг і рваў яго на часткі ў якасьці сувэніраў для расейцаў з каманды прэзыдэнта і ворагаў беларушчыны. Ён патрабуе абвергнуць гэтыя зьвесткі, сьцьвярджаючы, што гэта няпраўда.

А чытачы «Народнай газеты» завальваюць рэдакцыю лістамі наступнага зьместу: З прыходам да кіраўніцтва краінай прэзыдэнта Лукашэнкі сталі аднабокімі сродкі масавай інфармацыі: урадавыя газэты, радыё, тэлебачаньне. Яны на ўсе лады расхвальваюць дзейнасьць прэзыдэнцкай каманды, урадавых структур. Усё ціха і гладка... народ маўчыць, усе «задаволеныя» выбарамі, рэфэрэндумам. Пакончана з роднай мовай, гістарычнай сымболікай, працягвасцца працэс аб'яднаньня з Расеяй.

Сьвядомыя беларусы пратэстуюць супраць бязглуздага рэфэрэндуму, а Расея пляскае ў далоні. Дзяржаўная Дума Расеі патрабуе правядзеньня ў Расеі рэфэрэндуму ў сьнежні сёлета, разам з выбарамі ў расейскі парлямант аб зьліцьці ў адну дзяржаву Расеі і Беларусі.

А тымчасам чырвона-зялёныя сьцягі патрыётамі зрываюцца. 1-га чэрвеня сёлета беларускае тэлебачаньне паведаміла аб тым, што на будынку Маладзечанскага гарвыканкаму ўжо чатыры разы ноччу невядомыя людзі зрывалі чырвона-зялёны лукашэнкаўскі сьцяг і вешалі на ягонае месца бел-чырвона-белы. Але падобных паведамленьняў больш не падаюць, бо лукашэнкаўскі Гебэльс, таварыш Замяталін, сочыць за прэсай, радыё і тэлебачаньнем надзвычай уважліва. Пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі сп. Джон Эвэрард кажа аб гэтым так: «Калі параўноўваць беларускую прэсу 1992, 1993 і 1994 гадоў з прэсаю апошніх дзён панаваньня СССР, ці сёньняшняй сытуацыяй, то адметнасьці добра заўважаюцца. У гэты адрэзак часу абмяркоўваліся розныя пункты гледжаньня і зьяўляліся артыкулы на няпрыемныя для ўраду тэмы. А на працягу першай паловы 1995 году я заўважыў, што гэтая тэндэнцыя была спачатку прыпынена, а пасьля павернута назад». («Аргументы и факты», № 21, Масква, травень 1995, дададак для Беларусі)

**М. Гародзейскі**

---

**Яўхім Кіпель**

## 1935 ГОД ... НОВЫ АРЫШТ. ЖЫЛКАВАГА «ТЭСТАМЭНТУ» НКВД НЕ ЗНАЙШЛО!

*(Успаміны. З архіву БІНіМу)*

***Ад Рэдакцыі.*** *У 3-м сёлетнім нумары часапісу «Спадчына», які выдаецца ў Менску, было выдрукавана ці мала матар'ялаў пра Яўхіма Кіпеля. Матар'ялы былі выкарастаныя часткава з архіваў БІНіМу, часткава з архіваў менскіх сховішчаў былога НКВД, часткава з ранейшых друкаў. Ва ўступе да артыкулу пра Я. Кіпеля аўтар Уладзімір Дыдзік піша:*

*«Жыцьцёвы шлях Яўхіма Кіпеля складаней за ўсялякія схемы. Чырвонаармеец у рэвалюцыйныя гады; у 1920-я гг. актыўны працаўнік на ніве беларушчыны ў Савецкай Беларусі; у 1930-я гг. — «вораг народа», вязень сталінскіх концлягероў; у другую сусьветную вайну г.зв. калябарант, да канца жыцьця цьвёрда стаячы на антыкамуністычных, антысавецкіх пазыцыях. Дык хто-ж ён на самай справе — герой, здраднік, ахвяра?...»*

*Для большага зразуменьня эпохі і для ўдакумэнтаваньня беларускага мартыралёгу маскоўска-савецкага панаваньня на Беларусі, мы вырашылі надрукаваць частку ўспамінаў Яўхіма Кіпеля. Некаторыя часткі ягоных успамінаў: «Пагромы ў Менску (1930 год)»; «Байкала-Амурскія лягеры», «Апошнія дні Ўладзімера Жылкі», «Абвешчаньне БССР у Смаленску» друкаваліся у «Беларусе» раней.*

*Для нашых маладзейшых чытачоў дадамо гэткую інфармацыю: Яўхім Кіпель быў старшынём 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску ў 1944 годзе і быў актыўным дзеячом у палітычным жыцьці эміграцыі.*

* * *

Тэрмін мае ссылкі, як і некаторых іншых нацдэмаў, заканчваўся ў 1935 годзе. Нас, раскіданых па Вяцкім краі, пачалі зьбіраць у горад Вятку ды трымалі там некалькі месяцаў. У Вятку прыехала з г. Налінску і мая сям'я, жонка з сынам. У Вятцы нас штатыдня, а то і часьцей паклікалі ў мясцовае НКВД, дзе з намі праводзіліся «гутаркі». Мне на адным зь «візытаў» у НКВД было сказана, што на мяне ёсьць яшчэ некалькі «скаргаў» зь Менску аб маёй нацыяналістычнай там дзейнасьці — мне было нават сказана, што найбольш на мяне напісаў нехта Гурскі, былы, здаецца, дырэктар тэатру. Аднак, сьледчыя ў Вятцы казалі, тыя даносы ня мелі значэньня, бо мне ў Менск, ані ў Беларусь варочацца нельга. Было сказана, што па выезьдзе зь Вяткі, я ўсё яшчэ буду лічыцца ссыльным, хоць месца пасяленьня я магу выбраць сам.

Параіўшыся з жонкай, я хацеў выбраць для жыхарства горад Смаленск, але адразу-ж мне было ўдакладнена, што я не магу жыць у гарадох абласнога значэньня, ды тым больш у горадзе Смаленску. Мой наступны выбар быў — горад Арол (усё-ж бліжэй да Беларусі). У Арол ехаць мне было дазволена. Праўда, ня было дазволена ехаць разам з жонкай і сынам, а аднаму. Дарэчы, перад самым выездам зь Вяткі, мне яшчэ раз сувора было сказана, што я ўважаюся ссыльным і ні ў якім выпадку мне нельга паехаць на Беларусь. На маё запытаньне ў сьледчага «А ці можна будзе некалі зьезьдзіць дахаты?» сьледчы, павышаючы голас, адрэзаў: «Ты не жартуй — ніколі».

Я зь Вяткі выехаў недзе напрыканцы жніўня, а сям'я — у ліпені. Жонцы было дазволена паехаць і ў Менск, адведаць старога бацьку. Зь Менску жонка з сынам прыехалі ў Арол недзе ў сярэдзіне жніўня ды, пасяліўшыся ў доме калгасьніка на вул. 2-ой Курскай, пачалі шукаць пакойчык для сталага пасяленьня. Кажу сьведама «пакойчык», бо ўжо выяжджаючы зь Вяткі мы ведалі, што ў нас туга з грашыма — іх не было. А за кватэру-ж трэба было плаціць.

Я прыехаў у Арол напрыканцы жніўня 1935 году. Першым крокам у Арле было замэльдавацца ў НКВД. Тады я пачаў шукаць працу. Жонцы пашэнціла: у Арле арганізоўвалася новая 41-я школа, дык туды бралі адразу, бо ў гэтую школу дырэктары з усіх іншых гарадзкіх школаў «выкідвалі» што ім не падабалася. Школа ўкамплектавалася зь вялікай дозай «цяжкага» вучнёўскага складу. Але жонка была вельмі задаволеная, што ёсьць праца — гэта было асноўнае, бо нам ужо не хапала і на ежу. Жонка ўладзілася за настаўніцу рускае мовы й літаратуры ў старэйшых клясах, а вось мне не пашчасьціла — настаўнікі хіміі й фізыкі ў тэй школе былі, дык для мяне там працы не знайшлося. Праўда, і мне пашчасьціла — праз пару тыдняў мяне прынялі на працу выкладчыкам хіміі у мэдычны тэхнікум, які зьмяшчаўся пры вялікім старым шпіталі на ўскраіне гораду. Трэба сказаць, што хімічная лябараторыя там была добрая. Таксама нядрэнна да мяне паставіўся выкладчыцкі калектыў, хоць у настаўніцкай дырэктар усім паведаміў, што я знаходжуся на спэцыяльным (без удакладненьня) палажэньні.

З студэнтамі я быў асабліва асьцярожны: размаўляў толькі на тэму курсу і лябараторных працаў. Дарэчы, праца ў лябараторыі была разнастайная з асноўнай арыентацыяй на клінічную хімію, але мне было дазволена расказаць аб маёй працы ў

*(Працяг на 6-й ст.)*

## ДЛЯ БЕЛАРУСІСТАЎ — НОВАЯ КНІГА-ДАВЕДНІК

Davis, Robert H. **Slavic and Baltic Library Resources at the New York Public Library. A first history and practical guide.** New York: The New York Public Library, 1994. 166 p., photographs, charts.

Упяршыню ў дэтальнай форме з выкарыстаньнем архіўных дакумэнтаў дасьца гісторыя разьвіцьця Славяна-балтыйскага аддзелу Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі. Прадмова да кнігі напісаная ведамым палітыкам і знаўцам славянскага сьвету ды Ўсходняе Эўропы Джорджам Кенанам. Рост славянскіх калекцыяў, улучна з калекцыяй беларусікі, падасца на фоне росту цэлае бібліятэкі: вызначаныя розныя храналягічныя пэрыяды ды дасцца ацэна стану кнігазбораў за дадзеныя пэрыяд. Важна тое, што ад самага пачатку Славяна-балтыйскі аддзел у гэтай бібліятэцы займаў важнае месца ў разбудове агульнае калекцыі, якая сёньня налічвае панад дзесяток мільёнаў тамоў ды шмат кнігаў славянскае тэматыкі знаходзяцца і ў іншых аддзелах бібліятэкі.

У кнізе пададзеныя таксама розныя адміністрацыйныя дакумэнты, якія адлюстроўваюць зацікаўленасьць бібліятэкі ў наладжваньні абменных кантактаў, расшукоўваньні прыватных калекцыяў, якія з часам станавіліся часткай агульных кнігазбораў, а таксама дзейнасьць Славяна-балтыйскага аддзелу ў галіне славянскага кнігадруку й бібліяграфіі.

Разглядаючы дзейнасьць аддзелу за апошнія дзесяцігодзьдзе, асабліва ў пэрыядзе ўвядзеньня ў бібліятэчныя працэсы кампутарнае тэхналёгіі, аўтар адзначае, што «у 1988 годзе пад кіраўніцтвам сп-ні Зоры Кіпель, тагачаснага намесьніка загадчыка аддзелу, і старэйшага каталёгера сп-ра Зянона Куравіцкага Славяна-балтыйскі аддзел бібліятэкі разам з сэкцыяй затрыманае каталягізацыі пераврысіўю кольказ-сьцю свайго ўкладу Кангрэсавую Бібліятэку ў агульным кампютарным амэрыканскім фондзе закаталягізаванае славянскае літаратуры».

Новая кніга, бясспрэчна, добры дапаможнік славянаведам, дасьледнікам славянскіх калекцыяў ЗША (улучна зь беларускімі кнігазборамі) ды нагул кнігалюбам.

**В.З.**

## ЛЕКЦЫЯ ПРА АРХІТЭКТУРУ ПОЛАЦКУ

Дырэктар Мастацкае Бібліятэкі Ратгерскага Ўнівэрсытэту Галіна Русак прачытала 7 сьнежня для студэнтаў і выкладчыкаў унівэрсытэту, а таксама запрошаных гасьцей, лекцыю на тэму «Мастацтва і архітэктура Полацкага княства ў XI-XII стагодзьдзях. На лекцыі, ілюстраванай паказам слайдаў, было шмат слухачоў. Мэтай лекцыі, сказала сп-ня Русак, было ўзбудзіць зацікаўленьне сярод студэнтаў і выкладчыкаў да распрацоўваньня гісторыі старажытнага Полацку. Дакладчыца засярэдзіла ўвагу на высьвятленьні значэньня слова «Русь» і насьвятліла значэньне Полацку ў гісторыі Беларусі, азнаёміла з галоўнымі постацямі таго пэрыяду — князем Усяславам Чарадзеем і сьв. Еўфрасіньняй Полацкай — а таксама дэтальна апісала галоўныя аб'екты архітэктуры і мастацтва старажытнага гораду — Сафійскі сабор, Спаса-Еўфрасіньнеўскую царкву і крыж сьв. Еўфрасіньні Полацкай.

## BIAŁORUSKIE ZESZYTY HISTORYCZNE No. 1(3), 1995

Беларускае Гістарычнае Таварыства ў Беластоку пачало выдаваць летась «Беларускія гістарычныя сшыткі» — зборнікі артыкулаў, матар'ялаў і рэцэнзіяў на тэмы беларуска-польскіх дачыненьняў, беларусаў Польшчы і г.д. Летась выйшлі два зборнікі агульным лікам 363 старонкі. Трэці выйшаў сёлета. Усе тры — пад рэдакцыяй Юрыя Каліны. Зборнікі акуратна адрэдагаваныя, зь ілюстрацыямі. Мова матар'ялаў польская або беларуская. У канцы кожнага польскамоўнага артыкулу даецца зьмест пабеларуску і па-ангельску, да беларускамоўных публікацыяў зьмест дасцца па-польску і па-ангельску.

У трэцім нумары «Сшыткоў» (211 с.), як і ў двух папярэдніх, шмат цікавага і актуальнага, пра што сьведчаць, прыкладам, такія загалоўкі: «Бельск Падляскі за прускімі часамі»; «Рэпатрыяцыя беларусаў з тэрыторыі Беластоцкага ваяводзтва ў БССР у ўспамінах жыхароў»; «Беларуская самаабарона на Беласточчыне ў 1945-1947 гадах»; «Беларусы на Гданьскім Памор'і па Другой сусьветнай вайне»; «Аб патрэбе падрыхтаваньня сынтэзу гісторыі Беларусі (да 1918 году)». Цікавы таксама разьдзел «Палеміка, рэцэнзіі, хроніка».

Выдаўцы і супрацоўнікі «Беларускіх гістарычных сшыткоў» заслугоўваюць сваёй крапатлівай працай на ўдзячнасьць і падтрымку ў іхнай дзейнасьці.

## ТАВАРЫСТВА ФРАНЦЫЯ-БЕЛАРУСЬ

Пры парыжскім Нацыянальным Інстытуце Ўсходніх Моваў і Цывілізацыяў (НІУМЦ) (Institut National des Langues et Civilasations Orientales — INALCO) зарадзілася ў лістападзе сёлета ініцыятыва стварыць французска-беларускае таварыства. Паводле адкрытага звароту ініцыятыўнай групы, мэтай арганізацыі будзе спрыяць збліжэньню і супрацоўніцтву паміж народамі Францыі і Беларусі. Зварот падпісалі Бруно Дрвэскі, кіраўнік справамі канфэрэнцыяў НІУМЦ і Жак Рагон, загадчык турыстычнага бюро. Ініцыятары запрашаюць усіх зацікаўленых асобаў узяць удзел у ўстаноўчым сходзе, запланаваным на недалёкую будучыню. Да супрацоўніцтва ў таварыстве запрашаюцца ўсе зацікаўленыя асобы, што жывуць у Францыі і па-за ёй. Пісаць можна на адрас:

Association France-Belarus
INALCO
2, rue de Lille
75343 PARIS CEDEX 07
FRANCE

## КАНАДЫЙСКАЙ ЭТНАКУЛЬТУРНАЙ РАДЗЕ 15 ГОД

Заснаваная ў 1980 годзе Канадыйская Этнакультурная Рада (КЭР) — Canadian Ethnocultural Council — гэта кааліцыя 39-х этнічных арганізацыйных кааліцыяў, якія ўсе разам прадстаўляюць каля 2 000 этнічных арганізацыяў Канады.

КЭР служыць форумам для камунікацыі між этнічнымі групамі ды інфармаваньня канадзкага грамадзтва, ураду й сродкаў масавай інфармацыі аб этнакультурных групах ды іхніх патрэбах, праблемах.

Сябры КЭР супольна працуюць над тым, каб забясьпечыць усім канадыйцам захаваньне, разьвіцьцё й пашырэньне іхняй культурнай спадчыны, забясьпечыць ім магчымасьць поўнага ўдзелу ў грамадзкім і палітычным жыцьці, выкараніць расізм і захаваць еднасьць Канады.

Гістарычна заснавальнікамі Канады ў 1867 годзе былі дзьве нацыянальныя групы: ангельцы і французы. Трэцяя складовая група насельніцтва — карэнныя жыхары Канады — індзейцы і эскімосы, і чацьвертая — этнічныя групы, якія становяць 42 працэнты ўсяго насельніцтва Канады.

42% прадстаўляюць сілу, зь якой мусіць лічыцца ўрад Канады, мусіць лічыцца ён і з Канадзкай Этнакультурнай Радай, якая рэпрэзэнтуе інтарэсы 42% насельніцтва. Як дагэтуль, фэдэральны ўрад Канады ў значнай меры фінансуе дзейнасьць КЭР.

Заснаваны ў 1966 г. Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады (ККБК) ёсьць сябрам КЭР ад 1980 году. ККБК быў адным з заснавальніка КЭР.

Сяньня ў Канадзе грамадзкі, палітычны й эканамічны клімат надта няспрыяльны палітыцы шматкультуралізму, запачаткавай у 1971 годзе ўрадам Прэм'ер-міністра Трудо. Няспрыяльная й пагрозьлівая сытуацыя вымагае ўзмоцненай актыўнасьці й перагляду дзейнасьці КЭР.

Асэнсаваць пагрозы звонку, нашыя нутраныя слабасьці ды магчымасьці выпрацаваць тактыку дзеяньня як паасобных этнічных арганізацыяў, гэтак і кіраўнічай Канадзкай Этнакультурнай Рады было галоўнай тэмай Пасэджаньня Рады Прэзыдэнтаў КЭР, якое адбылося 18 і 19 лістапада 1995 году ў Таронта. Беларускую этнакультурную групы на пасэджаньні прадстаўляла др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня ККБК.

Чарговы гадавы зьезд сяброўарганізацыяў КЭР адбудзецца 28-29 травеня 1996 году ў Таронта. Кажная сябра-арганізацыя КЭР мае права высылаць на зьезд трох прадстаўнікоў з правам голасу.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## У ТУМАНЕ — НАДЗЕІ

**Прачытаўшы зборнік вершаў Сьвятланы Явар «Раніца ў туманах»**

Паэтка Раіса Баравікова ў сваім уступным слове да леташняга першага зборніка паэзіі Сьвятланы Явар (Саванка) «Белы месяц» (выд. «Мастацкая літаратура») адзначыла, што старонкі кніжкі «напісаныя пяшчотным сэрцам, якое жадае бачыць наш сьвет прыгожым і разумным». На жаль, сьвет, у якім даводзіцца жыць Сьвятлане, часьцей за ўсе і няпрыгожы, і неразумны. І гэта зырка відаць з другога ейнага зборніка, што выйшаў пад канец таго-ж самага году ў сэрыі «Бібліятэка часопісу 'Маладосьць'» пад загалоўкам «Раніца ў туманах».

Тут шырокай гамай пачуцьцяў і настрояў вылілася сказанае ўжо ў першым зборніку:

*Дажджы і цемра навакол,*
*Няма сьвятла, няма прасьвету —*
*Міжволі будзеш невясёл —*
*Ці пятратворышся ў паэта.*

Але Сьвятлана ня з кволага роду. Пра гэткіх яшчэ сказаў вялікі пакутнік і волат духа Ўладзімер Дубоўка: «У перашкодах дух расьце». Падобны гарт жыве недзе ў куточку і Сьвятланінай душы: на пытаньне «Згаджаешся змагацца?» яна станоўка адказала: «Божа, так!»

Другі ейны зборнік якраз красамоўна і адлюстроўвае пакутлівае змаганьне. Тэма адзіноты дзявоцкага сэрца, смага інтымнае ўтульнасьці, цяплыні каханьня праходзіць ляйтматывам па цэлай кніжцы. «Цяпер імчыць цягнік мой пад адхон», жахаецца паэтка, не знайшоўшы ў сваёй адзіноце «роднаснай душы». Тым-жа часам у віры жыцьця, якім-бы пакутлівым яно ні было, чулае сэрца ня можа заставацца няўважлівым да людзкога навакольля. А навокала-ж такія самыя, калі ня большыя, цярпеньні. І зболелая душа пачынае лепш разумець другую роднасную душу. Адбываецца спасьціжэньне ўзаемасувязі людзей, нараджаецца бачаньне свае місіі ў жыцьці. Прызначэньне памылкі — вучыць, прызначэньне болю — перасьцерагаць, прызначэньне пакутаў — быць спагадлівым. У Сьвятланы — спагадлівае сэрца.

*Хачу я з тупіку*
*ня толькі ўведаць выйсьце,*
*але падаць руку*
*людзям бязь веры ў прыйсьце.*

Пасьля разьдзелаў пра «роздум» і «агонію» прыходзіць разьдзел «Нарадзіны». Нараджаецца вера ў Бога. Над пачуцьцямі жалю па нязбытых надзеях, па каханым, які ня прыйшоў на спатканьне, уздымаецца малітва: «Я Госпада малю, я заклінаю, каб не гасілі зор маёй душы»; «Божа, як перажыць гэтых страшных гадоў завіруху?» А з малітвай паглыбляецца і адчуваньне сябе, як часткі сваёй краіны, дзе «муры байніцамі глядзяць», дзе званы «старой званіцы» «люд на вялікі сход клічуць» і дзе «матчына песьня» ўздымае ўгару «зьбіты чужынаю дух».

Сьвятлана Явар не баіцца «сказаць, што ляжыць на душы», не баіцца прызнацца ў душэўных пакутах, сумлевах, трывозе. Але яна пракладае і дарогу да ўздыму, да выхаду з тупіка, да сэнсу жыцьця па-за чыста асабістымі турботамі і мэтамі. І гэтым ейная паэзія вартасная ды патрэбная ў сёньняшнім затуманеным пакутамі сьвеце.

**Янка Запруднік**

## МАСАВЫ ВЫВАЗ БЕЛАРУСАЎ З ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

У 1940-41 гадох тысячы нявінных беларусаў зь сем'ямі з Заходняй Беларусі, бяз суда і сьледзтва, былі арыштаваныя і дэпартаваныя ўглыб СССР органамі НКВД. Усё гэта пачалося пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР у верасьні 1939 году.

Як адзін з тых тысячаў спэцперасяленцаў, ад 10.12.1940 г. я цікавіўся гэтай трагедыяй. Доўгія гады думаў аб гэтым і задаваў людзям і сабе пытаньне: за што? На жаль, ніколі ня меў ні ад людзей ні ад сябе рацыянальнага адказу. Праўда, найбольш пераканаўчым быў адказ аднаго чалавека, які сказаў, што ўсё гэтае бясправье рабілася таму, што «действовала сталинская власть». Трудна не пагадзіцца з такім ляканічным адказам.

Гадамі, ад 1942 году, ужо за граніцай чытаў у польскім друку, што «бальшавікі вывозілі палякаў толькі за тое, што яны былі палякамі». Гэта няпраўда, а пісалася і пішацца гэта дзеля таго, каб прапагандаваць гісторыю аб «польскім мучаніцтве». Саветы вывозілі беларусаў, украінцаў, расейцаў, палякаў, габрэяў і г.д. бяз розьніцы на нацыянальнасьць. Вывозілі сем'і лясьнікоў, пераважна беларусаў і ўкраінцаў. Вывозілі сем'і асаднікоў, амаль у сто працэнтах палякоў. Вывозілі таксама сем'і землеўласьнікаў, фабрыкантаў, бежанцаў (пераважна палякаў і габрэяў) з акупаванае Нямеччынай Польшчы.

Нядаўна прачытаў аж тры артыкулы ў беларускай прэсе аб дэпартацыях Саветамі людзей з Заходняй Беларусі ў 1940-41 гадох. Нам, ахвярам дэпартацыі, трудна пагадзіцца зь некаторымі выказваньнямі ў гэтых артыкулах. Мы ведаем другую праўду.

У газэце «Зьвязда» ў артыкуле пад загалоўкам «Армія Караёва на Беларусі ваявала за старыя межы» сп-ня Г. Кнацько піша: «Ваенныя падзеі суправаджаліся рэпрэсіямі супраць польскага насельніцтва. Дзесяткі тысяч палякаў былі арыштаваны альбо дэпартаваны ўглыб СССР». Гэта ня цэлая праўда. Арыштаванымі і дэпартаванымі былі ня толькі палякі, але і беларусы. Сп-ня Кнацько чамусьці беларусаў не ўспамінае. Трудна мне ўявіць, каб польскі гісторык, пішучы ў польскай газэце ў Польшчы аб арышце і дэпартацыях Саветамі ўспамінаў толькі беларусаў, а прамоўчваў палякаў. Дык чаму-ж беларускі гісторык не ўспамінае рэпрэсіяваных беларусаў?

Ня ведаю, каго было больш дэпартаваных, беларусаў ці палякаў. Ведаю, аднак, што ў нашым лягеры ў Плесецкім раёне Архангельскай вобласьці больш як 70 працэнтаў перасяленцаў былі беларусы. Тады ішлі палякі, габрэі. Чуў таксама ад другіх беларусаў, што ў іхных лягерох было больш беларусаў, чым палякаў.

Зусім беспадстаўна і вельмі крыўдна пісаў аб вывазах органамі НКВД сп. У. Калесьнік («ЛіМ», 6.5.94, «Адвечны кліч»). Пісаў ён, што «вывезьлі амаль усіх лясьнікоў, якія, як аказалася, пагалоўна былі на паслугах тайнай паліцыі». Дзівіцца трэба, што інтэлігентная асоба абвінавачвае ўсіх лясьнікоў ПАГАЛОЎНА ў «паслугах тайнай паліцыі». Гэта ня толькі што перасада, гэта няпраўда. Цікава, адкуль сп. Калесьнік ведаў, што лясьнікі (пераважна беларусы) былі на «паслугах тайнай паліцыі». Да якіх тайных архіваў меў ён доступ? Ну, калі і дапусьцім, што лясьнікі былі польскімі агентамі, дык за што Саветы-НКВД вывозілі лясьнікову жонку, дзяцей, унукаў, немаўлят? Ці яны таксама былі «на паслугах тайнай паліцыі»?

У імя аб'ектыўнасьці і справядлівасьці трэба прызнаць сп. Калесьніку, што ён напісаў таксама і наступнае: «Траплялі, на жаль, пад павальныя 'вывазы' бяз суда і сьледзтва нявінныя людзі. Богу душой вінаватымі ахвярамі аказаліся сем'і вывезеных». Гэта праўда. Сьв. пам. У. Калесьніку належыцца падзяка за гэтыя словы.

У часапісе «Голас часу» (Лёндан, № 33, 1994) сп. Ю. Сьвяржынскі падае яшчэ адну вэрсію вывазаў. Піша ён, што «былі нават выпадкі забойстваў (палякамі—М.Ш.) чырвонаармейцаў і другіх савецкіх урадаўцаў. Гэта, бадай, быў галоўны повад, чаму НКУС рашыў рэпатрыяваць палякаў і лясьнікоў, бо ў лясах хаваліся пераважна польскія патрыёты. Такая рэпатрыяцыя ўглыб СССР закранула нямала і беларусаў, якія былі на службе ў паля-

(*Працяг на 7-й ст.*)

## 1935 ГОД ... НОВЫ АРЫШТ

(*Заканчэньне з 4-й ст.*)

лябараторыі біялягічнае хіміі ў Менску, маім знаёмстве і супрацоўніцтве з праф. Разанавым, што ў маіх расейскіх калегаў выклікала зацікаўленьне ды выглядала, што ў лябараторыі можна будзе працаваць ды поўнасьцю распрацаваць тыя досьледы, якія мы пачыналі ў Менску ў канцы 20-х гадоў. Але, на жаль, справа павярнулася інакш.

Аднойчы, калі мы ішлі з працы дахаты, да мяне падскочыў даволі малады чалавек і сказаў мне, каб заўтра я зайшоў у НКВД — там мяне будуць чакаць. Было гэта недзе ў канцы кастрычніка – пачатку лістапада. Мне стала не па-сабе. Няўжо зноў?! — успалошылася думка. Але што я зрабіў, я-ж на волі ўсяго пару месяцаў, нікога з нашых, г. зн. сваіх знаёмых беларусаў я яшчэ нідзе не сустракаў.

Я ніяк ня мог зразумець сытуацыі. Расказаў аб гэтым жонцы. Яна глянула на мяне й ціха сказала: дабра нам ня будзе. Што будзе зь Вітам?

Цяжка было на душы, ды цяжка гэта перадаць і на словах!

Назаўтра я пайшоў у НКВД. Дзяжурны энкавэдыст праверыў мае дакумэнты і накіраваў мяне ў пакой, дзе мяне чакалі. У пакоі сядзела трох мужчынаў: два ў цывільнай вопратцы, а адзін у форме чэкіста. Размовы пачаліся, як звычайна завядзёнка ў чэкістаў: як жывеце, як жонка, як на працы і г.д. Але хутка адзін з цывільных, раптам перайшоў на беларускую мову, хоць і ня вельмі беглую. Гэтая асоба пачала гаварыць мне аб беларускім нацыянальным руху (ён, відаць, быў з рухам трохі знаёмы) ды аб шкодзе нацыянальнага ўхілу. «Беларускі нацыяналізм», казаў той цывільны, «перашкаджае сацыялістычнаму будаўніцтву, зь беларускім нацыянальным рухам трэба змагацца ўсялякімі сродкамі. Вы, як адзін з удзельнікаў гэтага нацыяналістычнага ўхілу, павінны праз цэнтральную газэту выступіць супраць беларускага нацыянальнага руху, Вы павінны асудзіць сваю мінулую дзейнасьць зьвязаную з гэтым рухам.» Тут ён скончыў, а ў маёй галаве маланкава праляцела думка: яны хочуць, каб я нешта напісаў, ясна!

На выступ гэтае асобы я лагодна адказаў так: беларуская адраджэнская ідэя, беларускі адраджэнскі рух пачаўся задоўга перад маім у яго ўваходам і я прыпушчаю, што не на мне гэты рух скончыцца. Да таго-ж я вельмі маленькая часьцінка ў нацыянальным руху ды выступаць супраць руху і супраць сваее-ж дейнасьці я ня буду.

Такі мой адказ ім усім вельмі не спадабаўся. Той беларускамоўны аж падняўся з крэсла ды рэзка мне адпаліў: «Ня Вашая справа развважаць, калі рух скончыцца ці ня скончыцца, а Вы павінны напісаць артыкул. А партыйныя органы вызначаць, дзе той артыкул будзе надрукаваны ды мне скажуць куды артыкул выслаць».

Тон ягоны быў як-бы канчатковым загадам. Я-ж і ня думаў на гэта рэагаваць ды падняўся з крэсла, каб выходзіць. Як толькі я ўстаў, чэкіст у форме мне войстра крыкнуў: «Калі Вы ўхіляецеся ад асуджэньня Вашае ідэалёгіі, Вашае мінулае працы, дык для Вас гэта скончыцца дрэнна». На гэта я ніяк не зарэагаваў і падаўся да выхаду. Мяне ніхто не затрымоўваў ні ў пакоі, ні ў калідоры, ні пры выхадзе з будынку. Я выляцеў з будынку НКВД. У галаве круцілася, я адчуваў сябе нібы ўчадзеўшым. Ішоў дахаты амаль бяспамятны. Дома жонка глянула на мяне і як-бы зразумела, прамовіўшы: «Ізноў!» Добра, што сына ня было ў хаце.

Я ёй расказаў аб размове ў НКВД. Мы яшчэ раз з жонкай перабралі ўсё дэтальна: як і што мне прапаноўвалі ды разам вырашылі, што я паступіў правільна, адмовіўшыся пісаць. Мы яшчэ раз супольна пастанавілі: пісаць і асуджаць беларускую дзейнасьць я ня буду! Рашэньне было прынятае, заставалася няясная будучыня. Я прадаўжаў хадзіць на працу. Зьменаў там я ніякіх не заўважаў, але добра разумеў, што мяне ў супакоі не пакінуць.

Жыцьцёвыя клопаты адцягвалі крыху ўвагу. Напачатку сьнежня захварэў на шкарлятыну сын Вітаўт. Яго павезьлі ў шпіталь і сказалі, што разам з карантынам ён там прабудзе каля трох-чатырох тыдняў. Недзе ў недалёкай школе ўдалося атрымаць пару дадатковых лекцыяў — грошы ўсё яшчэ былі ў абрэз, бо трэба было шмат чаго купляць і з вопраткі і з мэблі, бо-ж прыехалі мы ў Арол «як стой» — нічагусенькі ня мелі.

Здаецца, 29 сьнежня прывезьлі з бальніцы сына. Яму трэба было яшчэ пару дзён паляжаць у хаце. Добра, што к таму часу мы набылі ўжо ложак і кушэтку, плеценую зь вярбы. Кушэтку падсунулі пад самую грубку і палажылі на ёй Вітаўта. Людзі вакол і нашыя гаспадары рыхтаваліся да сустрэчы Новага 1936 году.

І вось 30 сьнежня, дзень да пярэдадня Новага Году, каля гадзіны 10-11 увечары спачатку стук у стаўню, а потым у браму — адчынеце, НКВД. Гаспадар адчыняе браму. У яго пытаюць: «Вы хозяин Шилкин?» Той адказвае: «Да, я хозяин». Далей гаворка ішла прыблізна так: У Вас жыве грамадзянін Кіпель Яўхім Яўсеевіч? Так, ён жыве тут. Пакажэце дамовую кнігу — праверым. Затым, ужо ў сенцах, трох ці чатырох энкавэдыстаў у форме адсоўваюць набок гаспадара, гаспадыню ды ўваходзяць у наш пакой. Наш пакой дзьвярэй ня меў, а толькі занавеску, дык увайсьці можна было безь перашкоды, ня стукаючы. Мне загадалі стаць каля грубкі, а побач мяне сталі два энкавэдысты са стрэльбамі, жонцы загадалі паказаць усе чамаданы ды ўсе нашы рэчы. Пачаўся вобыск. Трэсьлі ўсё — літаральна падымалі адзежыну й трэсьлі. Дэталёва перагледалі фатаграфіі і некаторыя забіралі. Мы з жонкай неяк скрыжавалі пагляды: у яе і ў мяне ў вачох быў непакой. Мы ведалі, што калі знойдуць тое, што схаванае — нам абаім турма. Тое схаванае, быў твор Уладзімера Жылкі «Тэстамэнт», які паэт мне праз пасыльнога даручыў у Налінску. Данесьці гэты твор да беларускага грамадзтва, у беларускую літаратуру — апошні крык зьняволенага беларуса — было нашым абавязкам і ляжала блізка на сэрцы. Асабліва я затрывожыўся, як будзе ісьці вобыск, калі энкавэдысты загадалі перанесьці хворага сыны на падлогу, успаролі сенны цюфяк на кушэтцы і перавярнулі яе дагары нагамі. Затым вобыск пачаўся на кухні, а ў гаспадара запыталіся, якімі месцамі мы карысталіся ў хаце. Вобыск быў грунтоўны, нічога ня скажаш! Але ў сярэдзіне я ўхмыляўся — небясьпека, відаць, мінула: шукалі ў тых мясьцінах, дзе «Тэстамэнт» Жылкі не ляжаў. Пранесла?!

Вобыск закончыўся каля гадзіны 4-5-й раніцы. Энкавэдысты паклікалі ў пакой гаспадара хаты, запрапанавалі яму і мне падпісаць пратакол вобыску, зазначыць, што канфіскуецца ды сказаць жонцы, каб падрыхтавала рэчы для мяне, бо мяне, сказаў энкавэдыст, забіраюць, і можа быць на працяглы час.

Мяне вывелі ўсенцы і нават не дазволілі абняць ні жонку ні сына. Праўда, мне ўрэзалася ў вушы, ды было гэта са мной праз усё жыцьцё, пытаньне сына: «Тат! Калі Ты вернешся?!» Што я мог яму адказаць? Што мы ведалі?

Мяне вывелі з хаты. Сьнег скрыпеў. Пачынаўся перадьнавагодні дзень — 31 сьнежаня 1935 году. На даўгія пяць гадоў я быў пазбаўлены волі. Цяжка аб гэтым нават успамінаць!

# СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

## РЫЧМАНД-ГІЛ, Н.-Ё.

Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью-Ёрку адзначыла ў нядзелю 26 лістапада 75-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня. У царкве Сьв. Кірылы Тураўскага а. Грэгоры і дыякан Майкл адслужылі паніхіду па героях Слуцкага чыну ды па ўсіх загінуўшых у змаганьні за волю Бацькаўшчыны. У царкве стаяла ганаровая варта са сьцягамі.

Вечная слава і вечная памяць Вам, змагары за справядлівасьць для беларускага народу. І ганьба цяперашняму беларускаму ўраду, які бэсьціць нацыянальных герояў і беларускую ідэю дзяржаўнасьці. Будзьма-ж стойкімі, вернымі нашым ідэалам, нашай праўдзе. Жыве Беларусь! **В.Ш.**

## КЛІЎЛЕНД, АГАЁ

Аддзел Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў (ЗБАВ) урачыста адзначыў 10 сьнежня 75-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. У царкве Жыровіцкае Божае Маці а. Міхась Страпко адправіў паніхіду па героях Случчыны і ахвярах сталінізму. У часе службы стаяла сьцяжная варта.

На памінальным абедзе ў царкоўнай залі праграму адкрыў уступным словам сп. Кастусь Калоша. Пасьля адсьпяваньня амэрыканскага гімну хвілінай цішыны была ўшанаваная памяць случчакоў. Жанчыны ўзлажылі вянок на іхную сымбалічную магілу, а ўсе разам адсьпявалі жалобны марш «Сьпі пад курганам герояў».

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Мікола Ганько, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК) з Таронта, які вельмі добра зазначыў, што слуцкія паўстанцы, хоць і ведалі, што шанцаў на перамогу ў іх ня было, усёж пайшлі супраць мацнейшага ворага, каб паказаць наступным пакаленьням шлях да волі Бацькаўшчыны. Беларуская эміграцыя працягвала традыцыю адзначаньня Слуцкіх угодкаў, а цяпер дата гэтая ўшаноўваецца і на Бацькаўшчыне.

Былі зачытаныя прывітаньні ад Беларускага Народнага Фронту, ЗБС «Бацькаўшчына», аддзелу ЗБАВ у Нью-Джэрзі ды ЗБК.

Канцэртная частка праграмы прайшла пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч. Хор «Васілёк» вельмі ўдала выканаў шэраг патрыятычных песьняў, што добра ацанілі слухачы працяглымі воплескамі.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». **К.П.**

## ТАРОНТА, КАНАДА

75-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну — вайны Беларускай Народнай Рэспублікі з Масквой — беларусы Канады адзначылі 3-га сьнежня ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта. Урачыстасьці пачаліся Сьв. Літургіяй. якую адправіў Архіяпіскап БАПЦ Уладыка Мікалай у суслужэньні а. Міраслава Вайцюка, і паніхідай за супакой душ герояў Беларусі. Сьцягі, беларускі й канадыйскі, у часе паніхіды трымалі К. Акула й В. Навіцкі.

Жалобную акадэмію адкрыў уступным словам старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады Мікола Ганько. Сымбалічную лісту герояў, што «загінулі за волю Беларусі», зачытаў Кастусь Акула. Гімнам «Сьпі пад курганам герояў» мы абяцалі: «З кожнае кроплі паўстане сіла і воля, як сталь. Кожны з нас волатам стане, сэрцаў ня зломіць нам жаль!»

Прывітаньні ўрачыстаму сходу прыслалі: Зянон Пазьняк, старшыня Сойму Беларускага Народнага Фронту; Ганна Сурмач, старшыня Вялікае Рады Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына»; А. Здановіч, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі; Кастусь Калоша, старшыня Беларускіх Вэтэранаў у Кліўлендзе; Паўла Гуз, сакратар Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі. Ад арганізацыяў Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады асабіста вітала старшыня яго др. Раіса Жук-Грышкевіч.

У сваім дакладзе сп. Раман Кардонскі засярэдзіўся на цяперашняй сытуацыі ў Беларусі.

Кастусь Акула прадставіў трагічную сытуацыю войска Беларусі.

У мастацкай праграме прафэсійная сьпявачка Ларыса Стэльмашэнка выканала песьні: «У бой за Случчыну», «Паўстань народ» і «О, Беларусь, мая шыпшына».

Каця Усовіч, якая вяла мастацкую праграму, прадэклямавала верш Янкі Купалы «Зваяваным».

Закончылася ўрачыстасьць беларускім нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# МАСАВЫ ВЫВАЗ

*(Заканчэньне з 6-й ст.)*

каў і маглі быць ворагамі савецкага парадку». Трудна пагадзіцца зь цьверджаньнем сп. Сьвяржынскага аб тым, што паколькі палякі забівалі чырвонаармейцаў і хаваліся ў лясох, Саветы пастанавілі вывезьці ўсіх лясьнікоў разам зь сем'ямі. Такое спрошчваньне трагічных падзеяў не апіраецца на дакумэнтах, на фактах.

Ня ведаю, як было ў другіх мясьцінах, але ў лясьніцтве, дзе служыў лясьнікам мой дзед, ня было ніякіх «польскіх патрыётаў» і ніхто ў лясох не хаваўся. Ды да вайны ў нас на Палесьсі было мала палякоў, усяго каля 14 працэнтаў.

Па-рознаму можна разумець словы «на службе ў палякаў». Дзеля гэтага я ўстрымаюся ад камэнтароў.

Вываз савецкімі органамі беларусаў і палякаў сп. Сьвяржынскі называе «рэпатрыяцыяй». Не, гэта не рэпатрыяцыя, а дэпартацыя.

Як Саветы арыштоўвалі і вывозілі на катаргу бяз суда, без абвінавачаньня і сьледзтва нявінных беларусаў і што рабілася ў лягерох паняволеньня, пастараюся апісаць у наступным артыкуле.

*Англія.* **М. Швэдзюк**

## ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У КВЭБЭКУ (ЗБуК) ПАРАФІЯ ЗБАВІЦЕЛЯ БАПЦ У МОНТРЭАЛІ ПАТРАБУЮЦЬ ДАПАМОГІ

ЗБуК і парафія Збавіцеля БАПЦ паставілі сабе за мэту «захаваньне здабыткаў беларускай культуры, захаваньне сваёй мовы, вывучэньне нашай гісторыі й рэлігіі, рэпрэзэнтацыю беларускай культуры перад урадам Квэбэку і нацыянальнымі асяродкамі ў Квэбэку». Каб дасягнуць пастаўленыя мэты, галоўная ўправа Згуртаваньня і парафіі зьвярнулася да беларускага грамадзтва з заклікам дапамагчы монтрэальскім беларусам грашовымі пазыкамі ў набыцьці свайго памешканьня, дзе яны маглі-б «стварыць свой Беларускі рэлігійна-грамадзкі цэнтр, які-б стаў тым магнітам, што прыцягнуў да нашай суполкі яшчэ больш беларусаў, асабліва новапрыбылых».

«Мы маем падтрымку ўрадаў Канады і Квэбэку, — сказана ў "Звароце да ўсіх братоў-беларусаў беларускае дыяспары", — паколькі яны стаяць за захаваньне этнічных групаў. Але мы патрабуем і вашай дапамогі. Мы зьвяртаемся да ўсіх суродзічаў-беларусаў усіх веравызнаньняў, а таксама і іх нашчадкаў, каб падтрымалі нас на моцы сваёй веры й любові да Бога, да Бацькаўшчыны».

Кіраўніцтвы ЗБуК і парафіі будзе зьвяртацца да паасобных людзей «каб абмеркаваць умовы пазыкі». Калі-б хто ўжо цяпер быў гатовы дапамагчы ў гэтай дабрароднай справе, можа пасылаць чэкі ў банк на наступны адрас:

Byelorussian Ass'n of Prov. Quebec
c/o Bank of Montreal
1100 Blvd. Labello
Chomedey, Laval (Quebec)
H7V 2V5

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць ад старшыні ЗБуК сп. Анатоля Хрэноўскага (тэл: 514-973-1639), ягонага заступніка Валодзі Бельмача (тэл: 514-738-2634) або старшыні парафіяльнай рады сп. Алеся Мяцеліцы (тэл: 514-374-3924).

# ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ 1995

*(Працяг; пачатак у № 427)*

Які самавіты і добраўпарадкаваны (у параўнаньні з цэнтральнай Беларусяй) палескі краявід, вёскі, пасёлкі і гарады. Шмат чысьцейшыя вуліцы, акуратнейшыя дамы, раўнейшыя платы, больш дагледжаныя гароды. І парнікі, парнікі, парнікі. Адразу відаць, што тут жывуць працавітыя і прадпрымальныя людзі. Кідаюцца таксама ў вочы амаль у кожнай вёсцы, пасёлку, мястэчку пакрытыя цынкавай бляхай блішчастыя купалы цэркваў. Ідзе адбудова рэлігійнага жыцьця.

Пра Палесьсе і палешукоў быў створаны сваім часам — найбольш, відаць, пад Польшчай — паклёп, як пра край балота і нейкай людзкой бяздарнасьці. Паклёп гэты знайшоў адлюстраваньне ў фразе «Паляшукі вы, а ня людзі» і падобнага роду выказваньнях, якія даводзілася часта чуць у лягерох у паваеннай Заходняй Нямеччыне, дый пасьля ў Амэрыцы. Сёньняшняе Палесьсе (учарашняга мне бачыць не даводзілася, калі ня лічыць кніжных ілюстрацыяў) у параўнаньні са знаёмымі мне мясьцінамі цэнтральнай Беларусі — рэзкае запярэчаньне ўсякім кепікам над палешукамі. Наадварот, бадай. Зрэшты, і таленты беларускае культуры ў цэлым, і актыў беларускае эміграцыі, і тое, што мы пабачылі ў падарожжы на свае вочы — катэгарычна запярэчваюць усякім паклёпам на Палескі край, выдатна пацьвярджаюць урадлівасьць палескае глебы ў даслоўным і ў пераносным сэнсе.

Па дарозе ў Давід-Гарадок нас ізноў засьпела бура. Раптам сьцямянела. Дождж лупануў як мы толькі што пад'ехалі да касьцельнага будынку, у якім (у моц спадчыны ад бальшавіцкага бяскультур'я) разьмясьціўся цяпер Дом культуры. Ня ўсьпелі мы расьсесьціся на лаўках пад высокім скляпеньнем запушчанага храму, пры аднэй слабенькай электралямпачцы, як раптам ударыў гром, лямпачка патухла, і мы апынуліся ў змрочнай атмасфэры, у якой вітаў нас загадчык аддзелу культуры Васіль Заруба, падаўшы крыху фактаў пра стан культуры на Століншчыне. Пачулі мы таксама ад Васіля Вабішчэвіча, сябры Беларускага Таварыства Мовы, пра цяжкасьці, зь якімі сустрэлася беларушчына пасьля лукашэнкаўскага рэфэрэндуму. Словам, панурае акружэньне, у якім мы апынуліся, і зьмест пачутага даволі дакладна адпавядалі адно аднаму.

Павесялела крыху, калі наведалі выстаўку абразоў мясцовага мастака ды керамічных вырабаў. Пабачылі, якія таленавітыя людзі жывуць на Століншчыне ды як дбайна перахоўваюцца іхныя творы.

Пакуль уладжвацца на начлег у Століне, зьсьвдзілі яшчэ на дзін канцэрт і афіцыйнае прыняцьцё — у самую паўдзённую палескую глыбінку, вёску Ніжні Церабежаў, куды даяжджаецца праз украінскую памежную заставу. Па дарозе туды наведалі вёсачку Церабежаў, малую бацькаўшчыну нашага рухлівага гіда Васіля Ліцьвінкі. Мы з Надзяй зазірнулі разам з Васілём у сьціплую хаціну, дзе жыве ягоная маці — пакланіліся ёй, падзякавалі за добрага сына, што рупліва сьцеражэ і пашырае народную мастацкую спадчыну.

У Ніжні Церабежаў мы моцна спазьніліся, прыехалі пад самы вечар. Балазе, што на Беларусі, ня так як у Нью-Ёрку, ноч улетку надыходзіць вельмі паступова. Было ўжо недзе пад дзесятую вечара, калі мы пад'ехалі да будынку, дзе нас чакала грамада церабежцаў, як звычай, з караваем, са словамі вітаньня, са зьдзіўленымі цікаўнымі позіркамі на заакіянскіх беларусаў. Юрка Наумчык ад імя наведнікаў узяў каравай, я ізноў сказаў свае слова радасьці за нагоды наведаньня ды ўпэўненасьці ў здольнасьць беларусаў адбудаваць сваю дзяржаву.

**Янка Запруднік**

*(Працяг у наступным нумары)*



## ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ



### СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ

*Абрамчык Анна й Мікола*
*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона, Юрка, Хрыстафор і Марк*
*Акула Кастусь*
*Андрусышын Юля й Павал зь сям'ёй*
*а. Андрэюк Васіль, матушка Вольга, дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Арцюх-Ляля й Язэп*
*Бартуль Вера й Францішь зь сям'ёй*
*Бельмач Лена, Володзя, Янка й Пятро*
*Вініцкі Кацярына й Яраслаў*
*Ганько Марыя й Мікола*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна*
*Даніловіч Аляксандра й Браніслаў*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*
*Дубяга Жэня, Алег, Юліян і Тамаш*
*Дубяга Мальвіна, Генадзь, Таіса і Генадзь малодшы*
*Завістовіч Іраіда й Расьціслаў*
*Жучка Янка зь сям'ёй*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Заморская Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Надзя і Янка*
*Запруднік Вера*
*Кавалёў Клава й Лявон зь сям'ёй*
*Кажан Люба, Віталь, Маргарэта й Юля зь сям'ёй*
*Калоша Кастусь*
*Кананчук Тацьцяна й Андрэй*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Каханоўская Іна*
*Каханоўская Яніна*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка зь сям'ёй*
*Корчык Люба й Юрка*
*Кулеш Павал зь сям'ёй, Дзідзя, Сьцяпан, Адам Гурыны*
*Кушаль Натальля*
*Лашук Аляксандар*
*Літвіненка Янка*
*Лукашэвіч Оля, Віктар, Коля й Стывэн*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Машанскі Уладзімір (Валодзя)*
*Мельяновіч Далорэс і Васіль*
*Мерляк Ганна й Кастусь*
*Міхалюк Лёля*
*Мурог Сузана й Лявон зь сям'ёй*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Норык Кінуся й Лёня*
*Орса-Романа Алла й Францішь, Павал і Коля*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Прускі Вера й Мікола зь сям'ёй*
*Ракуць Ліда й Володзя*
*Рамук Вера й Вітаўт зь сям'ёй*
*Русак Галіна й Васіль зь сям'ёй*
*Сапежынскія Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Сільвановіч Ніна й Аляксандар*
*Стагановіч Лявон*
*Стагановіч Тамара й Аляксандар Кольба*
*Станкевіч Раіса*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Сурвілла Івонка й Янка зь дзецьмі*
*Стус Валянтына й Багдан*
*Сьнежка Тамара й Мікола*
*Сяргіевіч Марыя й Васіль*
*Трыгубовіч Сяргей*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Тур Ліля, Віктар і Аляксандар Мікола*
*Ханенка Ліда, Янка й Янка малодша*
*Ханяўка Марыя, дачка Рагнеда і ўнук Даніла*
*Шукелайць Антон*
*Чарнэцкая Аляксандра*
*Яновіч Валентына й Янка*
*Яраховіч Оля, Астап, Андрэй і Даніла*



### НА СТАРОНКАХ АЙЧЫННАГА ДРУКУ

• **Інтэрв'ю зь Юркам Станкевічам** зьмясьціла менская расейскамоўная газэта «Имя» (22.XI.95), якая друкуецца цяпер у Летуве ў сувязі з забаронай, якую на яе наклаў вораг свабоднага слова прэзыдэнт Лукашэнка. Сп. Станкевіч гаворыць у сваім інтэрв'ю пра квартальнік Belarusian Review, пра пагляды беларускай эміграцыі на сучасныя падзеі ў Беларусі.

• **Пра супрацоўніцтва зь Мітрапалітам БАПЦ Мікалаем** над перакладам на беларускую мову Новага Запавету, выдадзенага сёлета ў Менску выдавецтвам «Бацькаўшчына», і спрэчкі вакол гэтага выданьня расказвае аўтар перакладу, выдатны літаратар Васіль Сёмуха ў інтэрв'ю газэце «Имя» (22.XI.95).

• **Ведамага пісьменьніка Кастуся Акулу,** аўтара сямі кніг, прывітала зь 70-мі ўгодкамі жыцьця газэта «Літаратура і Мастацтва» (17.XI.95), зьмясьціўшы біяграфічную даведку пра яго, напісаную Ўладзімірам Арловым, і перадрукаваўшы колькі ягоных апавяданьняў.

• **Кніга Юліяны Вітан-Дубейкаўскай «Мае ўспаміны»**, рукапіс якое перахоўваўся ў Нью-Ёрку, а якая была набраная ў Вільні і выдрукаваная ў Менску, зрэцэнзаваная ў газэце «ЛіМ» (17.XI.95) Людмілай Рублеўскай.

• **Ліст К(астуся) Вераб'я ў рэдакцыю «Голасу Радзімы»** (23.XI.95) напісаны на тэму, пра якую гаворыць ягоны загаловак — «Беларусы мусяць гаварыць па-беларуску». Хто піша, таго друкуюць!

• **Палеміка з «Царкоўным Пасланцом»**, выдаваным бруклінскай парафіяй БАПЦ, зьмешчаная ў газэце «Наша Слова» (22.XI.95). Супрацоўнік газэты У. Панада піша пра «імкненьне аднаго зь лідэраў расколатай БАПЦ знайсьці падтрымку ў Беларусі, карыстаючыся дзеля гэтага аргумэнтамі зусім не рэлігійнымі».

**СЯРДЭЧНА ВІНШУЕМ НАШЫХ СЯБРОЎ І ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ «БЕЛАРУСА», А ТАКСАМА БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА Ў ЗАМЕЖЖЫ І НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ ДЫ ЖАДАЕМ ШЧАСЬЛІВАГА, ЗДАРОВАГА І ПЛЁННАГА НОВАГА 1996 ГОДУ!**





*Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

*Канадыйскі сэктар Рады БНР*

*Кансысторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы*

*Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*

*Галоўная Ўправа Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі*

*Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва*

*Управа Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага*

*Галоўная Ўправа Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Амэрыцы*

*Згуртаваньне Беларусаў Канады*

*Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі*

*Рэдакцыя Belarusian Review*

*Управа аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзі*

*Управа аддзелу БАЗА ў Клііўлендзе*

*Управа Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру «Полацак» у Клііўлендзе*

*Камітэт аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Жаночнага Задзіночаньня ў Клііўлендзе*

*Lukjan Metal Products, Inc. Сям'я Лук'янчыкаў – Натальля, Анатоль і Лена.*

*Камітэт аддзелу Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Клііўлендзе*

*Парафіяльная Рада з прычтам Жыровіцкае Божае Маці ў Клііўлендзе*

*Управа парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку, Н.-Дж.*

*Парафіяльная рада і духавенства парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| А. Лук'янчык | ам. д. 400 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| К. Мерляк | 100 |
| Я. Запруднік | 50 |
| Р. Завістовіч | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| Я. і К. Вініцкі | 50 |
| А. і Л. Дубовік | 50 |
| А. Чарнэцкая | 50 |
| С. і Н. Дудар | 30 |
| С. Стаськевіч | 20 |
| П. Нядзьвецкі | 30 |
| Я. Жучка | 20 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| Х. Кажаневіч | анг.ф. 10 |

*Праз нашага прадстаўніка С. Трыгубовіча:*

| | |
|---|---|
| А. Субота (заміж вянка на магілу с.п. А. Андрыцы) | ам. д. 55 |
| І. Цупрык | 50 |
| Л. Стагановіч | 50 |
| Б. Даніловіч | 30 |
| Л. Гутырчык | 30 |
| Т. Пятроўскі | 30 |
| С. Трыгубовіч | 30 |
| С. Шыян | 30 |

*За калядныя віншаваньні:*

| | |
|---|---|
| В. Кажан | 40 |
| К. Мерляк | 25 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| А. Лашук | 20 |
| А. Субота | 20 |
| С. Трыгубовіч | 20 |

### Ахвяраваньні на Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва

| | |
|---|---|
| В. і М. Махнач | ам. д. 200 |
| В. і З. Кіпель | 100 |
| В. і Г. Русак | 100 |
| Б. Даніловіч | 60 |
| Я. і Н. Запруднік | 40 |
| А. Сільвановіч | 25 |
| Ф. Бартуль | 20 |
| М. Швэдзюк | 20 |
| Я. Жучка | 20 |
| А. Субота | 5 |
| А. Міцкевіч | 5 |

## СЬВ. ПАМ. АРНОЛЬД АКАНОВІЧ

Нарадзіўся ў Менску 27 красавіка 1934 году.
Раптоўна памёр 2 жніўня 1995 у Слайдэле, Люізіяна,
аб чым з глыбокім сумам паведамляюць

**Пляменьніца Вэроніка й сябры**